*А.Г. КАХАНОЎСКІ, С.М. ХОДЗІН*

## ТЭНДЭНЦЫІ РАЗВІЦЦЯ ГІСТАРЫЧНАЙ АДУКАЦЫІ І НАВУКІ Ў БДУ НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ

Дана характеристика перспективных направлений развития белорусской исторической науки и образования на современном этапе, весомой роли в данных процессах исторического факультета Белорусского государственного университета. В качестве примера для более детального анализа избранной темы стало рассмотрение становления научной школы социальной истории Беларуси XIX – начала XX в.

The article gives description of the perspective tendencies of the Belarusian historical science and education development in the modern period and the weighty role of the History Faculty of the BSU in these processes. As an example for more detailed analysis was taken the formation of the scientific school of the social history in Belarus in the period of 19th – beginning of the 20th century.

У апошнія дзесяцігоддзі гістарычная навука Беларусі імкліва развівалася. Вельмі разнастайнай стала тэматыка даследаванняў, больш дасканалымі макра- і мікрападыходы, даследчыцкія прыёмы. Часам нават прафесіяналу вельмі складана сярод мноства артыкулаў, манаграфій, дысертацыйных прац, краязнаўчых і навукова-папулярных работ, зборнікаў дакументаў і матэрыялаў канферэнцый акрэсліць межы назапашанага гісторыкамі. Звяртаючыся да аналізу той ці іншай праблемы, нярэдка з горыччу адзначаеш, як дарэчы былі б абагульняючая манаграфія ці гістарыяграфічны агляд у гэтым напрамку.

Развіццё новых форм адукацыі і навуковых даследаванняў на гістарычным факультэце БДУ адбывалася ва ўмовах станаўлення незалежнасці Беларусі. На аснове закладзеных традыцый былі распрацаваны праграмы адпаведных курсаў, створаны падручнікі і курсы лекцый з грыфам, электронныя вучэбныя комплексы, склалася сістэма крыніцазнаўчых курсаў, якая ахоплівае ўсе кафедры гістарычнага факультэта БДУ. У 2000 г. была адкрыта спецыяльнасць «Дакументазнаўства і інфармацыйнае забеспячэнне кіравання», крыху пазней – магістратура, аспірантура па архівазнаўству і даку-ментазнаўству, абаронены першыя ў краіне кандыдацкія дысертацыі. Але ў пераважнасці далейшае развіццё ішло не праз адкрыццё новых спецыяльнасцей, а іх накірункаў – паліталогія, культурная спадчына і турызм, інфармацыйнае забеспячэнне кіравання і інш. Пасля рэарганізацыі пачала працу

кафедра крыніцазнаўства БДУ (загадчык – С.М. Ходзін), сфарміравалася новая структура Інстытута гісторыі НАН Беларусі, з якім гістарычны факультэт плённа супрацоўнічае не толькі ў арганізацыі вучэбнага працэсу, а найперш – навуковых даследаванняў.

З 2002 г. пачынаецца выданне зборніка «Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны», прадмову да якога напісаў патрыярх расійскага крыніцазнаўства С.О. Шміт. Зборнік знайшоў трывалую падтрымку ў многіх еўрапейскіх навуковых і адукацыйных установах. Гэта дало падставу дэкану гістарычнага факультэта С.М. Ходзіну вылучыць ідэю стварэння новага зборніка «Працы гістарычнага факультэта». Рэдкалегію ўзначалілі вядомыя даследчыкі ў галіне гісторыі Беларусі – загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу А.Г. Каханоўскі і прафесар гэтай кафедры У.К. Коршук, што прадвызначыла найперш айчынны вектар публікацый. Навуковыя выданні факультэта сталі лакаматывам навуковых даследаваннняў не толькі ў Беларусі, але і на постсавецкай прасторы. Гэта асабліва акрэслілася са з'яўленнем зборніка «Расійскія і славянскія даследаванні», што пачаў выдавацца па ініцыятыве загадчыкаў кафедр А.А. Яноўскага і А.П. Салькова. За апошнія 10 гадоў на аснове былых кафедр гісторыі СССР склаліся новыя – кафедра гісторыі Расіі і кафедра гісторыі паўднёвых і заходніх славян. Па гісторыі Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы сфарміравалася навуковая школа, абаронены дысертацыі па гісторыі большасці краін гэтага рэгіёна Еўропы, рыхтуецца доктарская дысертацыя загадчыкам кафедры А.П. Сальковым. Кафедра гісторыі Расіі не толькі падоўжыла свае сталыя традыцыі, але і памножыла іх, развіваючы даследаванні ў галіне гісторыі Украіны. Менавіта на кафедры гісторыі Расіі вельмі плённа развіваецца напрамак гістарыяграфіі дзякуючы дзейнасці прафесара В.І. Мянькоўскага і яго вучняў. На працягу апошніх гадоў выйшаў цэлы цыкл навуковых і вучэбна-метадычных выданняў, дзе прапанавана методыка сістэмнага вывучэння нацыянальных і рэгіянальных гістарыяграфій, заснаваная на вызначэнні этапаў у развіцці гістарычных даследаванняў, вывучэнні інфраструктуры акадэмічнай гістарыяграфіі, яе праблемна-змястоўных прыярытэтаў. Заўважным для айчынных і замежных даследчыкаў стаў шэраг кандыдацкіх дысертацый па гісторыі знешняй палітыкі, выкананых пад кіраўніцтвам прафесара А.А. Яноўскага.

Супярэчлівасцю характарызуецца развіццё спецыяльных гістарычных дысцыплін і археалогіі на гістарычным факультэце. З аднаго боку – значныя страты (знакаміты нумізмат В.Н. Рабцэвіч; таленавіты малады археолаг і педагог В.С. Абухоўскі,), з другога – станаўленне новага пакалення археолагаў, якое адбывалася пад уплывам таленавітых настаўнікаў. Яны папоўнілі аспірантуру і склад не толькі кафедры факультэта, але і Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Выйшла з друку манаграфія загадчыка кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін А.А. Егарэйчанкі і адбылася абарона доктарскай дысертацыі. Ім вызначаны і абгрунтаваны дзве культуры штрыхаванай керамікі: 1) ранняя, што адносіцца да эпохі бронзы; 2) позняя, якая характарызуе жалезны век у Цэнтральнай і Паўночна-Заходняй Беларусі і ва Усходняй Літве.

Сапраўдным сталеннем характарызуецца сітуацыя ў галіне айчыннай гісторыі. Неабходна заўважыць, што значныя поспехі найперш па археалогіі, а таксама па гісторыі Беларусі зроблены нашымі калегамі з Інстытута гісторыі НАН Беларусі. У даследаванні такой важнай праблематыкі, як дзяржаўнасць Беларусі, сумеснымі намаганнямі праведзены не толькі навуковыя канферэнцыі, але і выдадзены зборнікі, манаграфіі. Пленнымі ў гэтым накірунку з'явіліся працы П.І. Брыгадзіна і У.Ф. Ладысева, па гісторыі палітычных партый Беларусі – прафесараў І.Ф. Раманоўскага і У.К. Коршука, па гісторыі Заходняй Беларусі – прафесара П.І. Зялінскага. Адначасова на факультэце склалася хваля маладых таленавітых даследчыкаў – В.А. Варонін, А.М. Лукашэвіч, В.С. Макарэвіч і інш. Значны патэнцыял для развіцця мае кафедра гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў (загадчык кафедры – Ю.Л. Казакоў).

У цесным узаемадзеянні з установамі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, найперш Інстытутам мастацтвазнаўства і фальклору, працуе кафедра этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў (загадчык кафедры – Т.А. Навагродскі). Яе з'яўленне дало магчымасць стварыць новыя накірункі па спецыяльнасцях – гісторыя (мастацтваў), гісторыя (этналогія), музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны (культурная спадчына і турызм) і інш. За апошнія 10 гадоў выйшлі з друку манаграфіі (П.У. Церашковіч), зборнікі матэрыялаў, энцыклапедыі і навучальныя дапаможнікі, падручнікі. Абаронены доктарская (А.А. Гужалоўскі) і некалькі кандыдацкіх дысертацый. Побач з такімі знакамітымі навукоўцамі, як Н.Ф. Высоцкая (лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь), выявілі сябе і такія таленавітыя даследчыкі, як І.Р. Томашава.

Творчы саюз з Інстытутам гісторыі, Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору дазваляе ажыццяўляць навуковыя пошукі ў межах дзяржаўнай праграмы фундаментальных даследаванняў, шэрагу прыкладных тэм. Пры гэтым неабходна заўважыць, што, нягледзячы на занятасць выкладчыцкай працай, вучоныя факультэта не саступаюць калегам па колькасці, аб'ёму (і спадзяёмся – па якасці) навуковых прац. Адначасова неабходна канстатаваць, што пытанні ўсеагульнай гісторыі ў краіне даследуюцца пераважна выкладчыкамі гістарычных факультэтаў краіны, у прыватнасці гістарычнага факультэта БДУ. Кафедры ўсеагульнай гісторыі сканцэнтравалі сваю ўвагу на выяўленні

асаблівасцей развіцця цывілізацый, перадумоў этнаканфесійных супярэчнасцей і канфліктаў у сучасным свеце, вывучэнні айчыннага і сусветнага вопыту вырашэння гэтых канфліктаў і ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі, даследаванні інтэграцыйных і дэзінтэграцыйных працэсаў у сувязі з глабальнымі зменамі ў свеце. Вучоныя кафедр імкнуцца стварыць цэласную карціну міжцывілізацыйнага ўзаемадзеяння, этнаканфесійных адносін у краінах СНД і свеце ва ўмовах глабалізацыі. Асабліва заўважнай у гэтым накірунку з'яўляецца дзейнасць кафедры новай і навейшай гісторыі (загадчык кафедры – прафесар У.С. Кошалеў). Менавіта У.С. Кошалеў паспяхова каардынуе навуковую дзейнасць у галіне гістарычнай навукі.

Значныя навуковыя пошукі ажыццяўляюцца і па-за межамі фінансуемых навуковых тэм. Такога роду распрацоўкі выкарыстоўваюцца найперш для падрыхтоўкі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. За апошнія 10 гадоў у свет выйшла ўжо некалькі іх пакаленняў для сярэдняй школы і сістэмы вышэйшай адукацыі. Многія з такіх падручнікаў падрыхтаваны па курсах, якія раней пісаліся толькі ў Маскве («История России ХХ века», «История средних веков», «История и теория источниковедения»), прайшлі Дзяржаўную атэстацыю і атрымалі грыф Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

На грунце навуковых даследаванняў загадчыкам кафедры старажытнага часу і сярэдніх вякоў В.А. Фядосікам у падручніках, хрэстаматыях, зборніках дакументаў для студэнтаў і школьнікаў вызначана канцэпцыя «чалавека ў мінулым». Такая сістэмная праца адзначана прэміяй імя У.І. Пічэты. Абаронены шэраг доктарскіх (І.А. Еўтухоў) і кандыдацкіх дысертацый. Шэраг выпускнікоў кафедры гісторыі старажытнага часу і сярэдніх вякоў паспяхова працуюць у многіх універсітэтах Еўропы. Пашырыўся і дыяпазон навуковых даследаванняў кафедры, якія зараз уключаюць і старажытнасці, і міфалогію Беларусі. У 2005 г. выйшла з друку манаграфія А.А. Прохарава «Князь Тур: гісторыя легенды. Сакралізацыя княжаскай улады ў славян».

У 2010 г. быў зацверджаны новы склад Савета па абароне доктарскіх дысертацый. Расце метадалагічны ўзровень, якасць дысертацый па гісторыі. У многім гэта адбываецца дзякуючы адпаведным даследаванням у краіне. На гістарычным факультэце БДУ склалася школа па метадалогіі гісторыі пад кіраўніцтвам прафесара У.Н. Сідарцова, якім падрыхтаваны шэраг манаграфій і дапаможнікаў. Значны водгук атрымалі манаграфіі па еўрапейскай гістарыяграфіі В.М. Шутавай, шэраг цікавых артыкулаў і вучэбных дапаможнікаў падрыхтавана дацэнтам кафедры крыніцазнаўства Д.С. Самахвалавым.

На гістарычным факультэце склаўся ўнікальны навуковы калектыў, які ахоплівае сваімі даследаваннямі гісторыю ўсіх кантынентаў ад старажытнасці да сучаснасці. Дзякуючы сістэме навуковых гурткоў, пазавучэбнай рабоце ў навуковыя даследаванні ўключана значная частка студэнтаў. Штогод прысутнічае конкурс у магістратуру і аспірантуру, фарміруецца склад новага пакалення даследчыкаў, выдатна ведаючых мову крыніц, замежную мову, новыя інфармацыйныя тэхналогіі. Арганізуецца дзейнасць Савета маладых вучоных факультэта (Н.У. Кошалева, А.М. Назаранка і інш.). Усё гэта дазваляе з упэўненасцю і перакананасцю ў лепшым глядзець у будучыню гістарычнай навукі Беларусі.

Для прыкладу больш падрабязна спынімся на станаўленні школы сацыяльнай гісторыі Беларусі. Ужо ў перыяд 1920–1930-х гг. пачалося станаўленне ўласнабеларускай гістарычнай школы і гісторыі Беларусі як самастойнага аб'екта даследавання, вызначэння агульных абрысаў нацыянальнага мінулага. Гістарыяграфічныя здабыткі гэтага перыяду на некалькі дзесяцігоддзяў наперад вызначылі развіццё беларускай гістарычнай навукі, асноўны прыярытэт яе – вывучэнне айчыннай гісторыі, значна меншая ўвага да сусветнагістарычнага працэсу. Варта адзначыць вядучую ролю ў гэты час гісторыкаў БДУ і Акадэміі навук Беларусі пасля яе стварэння.

Адным з асноўных прыярытэтаў развіцця беларускай гістарычнай навукі ў 1920–1930-я гг. сталі даследаванні айчыннай гісторыі XIX – пачатку XX ст., найперш сацыяльна-эканамічных працэсаў і развіцця рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху. Для іх быў характэрны пераважна макрагістарычны падыход і імкненне ва ўмовах імклівага пашырэння марксісцкай парадыгмы зразумець і абгрунтаваць непазбежнасць рэвалюцыйных пераўтварэнняў. Гэта былі працы рознай глыбіні пранікнення ў прадмет вывучэння, асваення гістарычных крыніц, часам заснаваныя на ўласным вопыце бачання апісваемых працэсаў. У той жа час выразна адрозніваюцца паміж сабой гістарыяграфічныя здабыткі вывучэння гісторыі Беларусі XIX – пачатку XX ст., зробленыя ў 1920-я і ў 1930-я гг. Першы этап вызначаўся большай шырынёй тэматыкі і падрыхтоўкай даследаванняў, якія не страцілі навуковай каштоўнасці да сённяшняга дня.

Гістарыяграфія 1930–1950-х гг. вызначылася празмернай увагай да развіцця рабочага і сялянскага руху, ідэалагізацыяй фарміравання грамадска-культурнага жыцця. Не без шаблонаў таго часу, але ўсё ж змястоўны матэрыял аб сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі ўтрымліваюць даследаванні Д. Дудкова[1], К. Кернажыцкага[2], І. Саладкова[3], М. Фрыдман[4] і інш.

У пасляваенны перыяд, асабліва пачынаючы з канца 1950-х гг., пашыраецца кола пытанняў развіцця беларускага грамадства, разгледжаных беларускімі гісторыкамі, больш грунтоўным і ўсебаковым становіцца іх аналіз. На працягу 1960–1980-х гг. гісторыкамі дастаткова дэталёва акрэслены агульныя абрысы сацыяльна-эканамічных працэсаў у Беларусі, вызначаны накірунак іх развіцця, уведзены ў

навуковы ўжытак і ахарактарызаваны асноўныя віды масавых крыніц, акрэслены і выкарыстаны інфармацыйныя магчымасці статыстычных дадзеных. Але ў гэты перыяд іх разгляд датычыўся пераважна разлажэння феадалізму і ўплыву капіталістычных адносін на вёску і горад Беларусі, станаўленне пралетарыяту і сацыяльнае разлажэнне сялянства, а таксама эвалюцыі і формаў рабочага, сялянскага, рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага рухаў, палітыкі царызму ў Беларусі. На гэтым этапе выходзіць шэраг прац К. Шабуні[5], прысвечаных аграрнай гісторыі, у якіх прааналізаваны пытанні стратыфікацыі сялянства і землеўласнікаў ва ўмовах эвалюцыі буржуазных адносін. З'явіліся таксама працы З. Абезгаўза[6], М. Біча[7], М. Болбаса[8], А. Кажушкова[9], Л. Ліпінскага[10], В. Панюціча[11], В.Чапко[12], С. Самбук[13], М. Улашчыка[14] і інш. Большасць даследчыкаў-гісторыкаў былі супрацоўнікамі Акадэміі навук Беларусі, БДУ ці атрымалі адукацыю ў сценах гістарычнага факультэта БДУ. Каштоўным здабыткам гэтага перыяду для вывучэння гісторыі Беларусі стала выданне калектыўных абагульняючых прац: «Гісторыя Беларускай ССР»[15], «История рабочего класса Белорусской ССР»[16] і інш. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў сярод даследчыкаў Савецкай Беларусі ў вывучэнні айчыннай гісторыі XIX–XX стст. адной з найбольш актуальных тэм была гісторыя рабочага класа. Пэўным падсумаваннем даследавання складанага шляху этнасацыяльных працэсаў на тэрыторыі Беларусі, станаўлення беларускай нацыі з'явілася выданне «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985)[17].

Па-за ўвагай даследчыкаў у 1960–1980-я гг. засталіся пытанні эвалюцыі саслоўных інстытутаў у Беларусі, гісторыі дваранства, купецтва, духавенства, мяшчанства, буржуазіі, інтэлігенцыі, комплекснага асэнсавання развіцця беларускага нацыянальнага руху і яго ідэалогіі, дэталёвага аналізу фарміравання беларускай нацыі, этапаў і накірункаў урадавай палітыкі ў Беларусі ў сацыяльна-саслоўнай і нацыянальна-культурнай і канфесійнай сферах, даследавання ліберальнага і кансерватыўнага накірункаў грамадскай думкі і руху Беларусі, функцыянавання культурна-асветніцкіх асяродкаў і інш.

У сучасных даследаваннях айчынных гісторыкаў актыўна распрацоўваецца больш шырокі спектр тэматыкі, перш за ўсё пытанні эвалюцыі ўрадавай палітыкі, нацыянальных рухаў, сацыяльнай і канфесійнай гісторыі, на іншы ўзровень асэнсавання выведзены аналіз развіцця культуры і інш. Дадзеныя пытанні сталі прадметам навуковых работ В. Цяпловай[18], праз якія вернуты акадэмічнай грамадскасці многія цікавыя імёны, падзеі грамадска-культурнага і канфесійнага жыцця Беларусі XIX ст. У апошнія дзесяцігоддзі беларускія даследчыкі звярнулі ўвагу на вывучэнне гісторыі дваранства, буржуазіі, чыноўніцтва, святарства, інтэлігенцыі Беларусі. У манаграфіі З. Шыбекі «Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў)» вызначана месца гараджан у структуры насельніцтва Беларусі[19]. Упершыню ў айчыннай гістарыяграфіі аўтар узняў праблему сацыяльнай і тэрытарыяльнай мабільнасці жыхароў беларускіх гарадоў і мястэчак, ахарактарызаваў палітыку расійскага ўрада ў дачыненні працэсаў горадаўтварэння. Даследаванне А. Жытко «Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861–1914 гг.» (2003) з'яўляецца першай у айчыннай гістарыяграфіі манаграфіяй, прысвечанай гісторыі вышэйшага саслоўя ў Беларусі[20]. У манаграфіі Н. Палятаевай разгледжаны дынаміка, склад, прававое становішча, гандлёва-прамысловая дзейнасць купецтва Беларусі[21]. Разгляд уплыву сацыяльна-дэмаграфічных змен на мяжы XIX–XX стст. на дзяржаваўтваральныя і этнакультурныя працэсы ў Беларусі з'яўляецца адным з прыярытэтаў навуковых прац У. Ладысева. Шмат гадоў вывучэнню гісторыі сялянства Беларусі XIX ст., вызначэнню саслоўна-групавога яго складу, аналізу ўрадавай палітыкі да гэтай буйнейшай сацыяльнай групы прысвяціў У. Сосна[22]. Асаблівую цікавасць да новай тэматыкі праявілі маладыя даследчыкі (В. Кахновіч, А. Лепеш, В. Макарэвіч, Г. Маскевіч і інш.). На сучасным этапе беларускімі гісторыкамі значна менш надаецца ўвагі традыцыйным для айчыннай гістарыяграфіі пытанням развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі, фарміравання рабочага класа, сацыяльнага разлажэння сялянства і інш. Прыметнай у гэтым сэнсе з'явай стаў выхад другога тома «Гісторыі сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён» (2002)[23], дзе на аснове вялікага пласта архіўных крыніц і абагульнення вопыту спецыяльных даследаванняў дадзены панарамны разгляд эвалюцыі сацыяльна-эканамічнага, прававога становішча, побыту беларускага сялянства ў другой палове XIX – пачатку XX ст., яго месца ва ўрадавай палітыцы, аграрных пераўтварэннях, міграцый і сацыяльнага руху.

У манаграфіі В. Яноўскай «Хрысціянская царква ў Беларусі ў 1863–1914 гг.» (2002) дадзены аналіз змен у стане хрысціянскіх канфесій Беларусі ў 1863–1914 гг., іх узаемадачыненні, уплыў на грамадства[24]. Развіццё асобных этнаканфесійных груп насельніцтва Беларусі ў больш шырокім, чым разглядаемы перыяд, гістарычным кантэксце стала прадметам спецыяльнага аналізу ў манаграфічных даследаваннях А. Гарбацкага (стараабрадцы)[25], У. Тугая (латышы). Пытанні гістарыяграфіі гісторыі Беларусі XIX ст., развіццё гістарычнай думкі ў Беларусі вывучае Д. Караў[26]; функцыянавання дзяржаўнага апарату на тэрыторыі Беларусі ў XIX – пачатку XX ст., эвалюцыі ўнутранай палітыкі – П. Брыгадзін і А. Лукашэвіч[27], працэсы рэалізацыі буржуазных рэформаў на тэрыторыі беларускіх губерняў – А. Загорнаў, трансфармацыі беларускага грамадства на зыходзе прыгонніцтва – А. Люты[28]. Эвалюцыя польскага грамадска-палітычнага руху на тэрыторыі Беларусі, яго суадносіны з беларускім нацыянальным асяродкам, станаўленне краёўства як плыні ў грамадскім жыцці знайшлі адлюстраванне

ў манаграфічных даследаваннях А. Смалянчука[29], дзейнасць дэпутатаў ад беларускіх губерняў у Дзяржаўнай думе Расійскай імперыі – у працах М. Забаўскага[30]. Шэраг манаграфій і артыкулаў С. Снапкоўскай прысвечаны развіццю адукацыі на тэрыторыі Беларусі[31]. Развіццё рынку, прадпрымальніцтва ў Беларусі разглядаецца ў шматлікіх навуковых артыкулах А. Кіштымава[32]. Метадалагічныя праблемы вывучэння грамадскіх рухаў, іх класіфікацыя і перыядызацыя сталі сферай даследаванняў М. Сакаловай[33]. Разгляд станаўлення сацыяльнай работы, дабрачыннасці ў Беларусі дадзены ў працах А. Грыгор'ева, С. Шымуковіча[34] і інш.

Аўтары чацвёртага тома шасцітомнага навуковага выдання «Гісторыя Беларусі» (2005)[35] акцэнтуюць увагу на разглядзе асаблівасцей урадавай палітыкі, правядзення рэформ на тэрыторыі Беларусі, капіталістычнай трансфармацыі эканамічнага жыцця, эвалюцыі асноўных плыняў грамадскага руху, здабыткаў культуры. Стан, дыскусійныя пытанні, перспектывы айчыннай гістарыяграфіі разгледжаны ў калектыўных даследаваннях Інстытута гісторыі НАН Беларусі «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.: праблемы, здабыткі, перспектывы» (2006)[36], «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы» (2011)[37].

На сучасным этапе сацыяльная гісторыя адносіцца да ліку нямногіх раздзелаў гісторыі Беларусі, дзе не адбылося адмаўлення ад здабыткаў даследчыкаў мінулага, спроб рэвалюцыйна пераглядзець тэарэтычныя падыходы да асэнсавання ранейшых працэсаў. Назіраецца канструктыўны дыялог пакаленняў навукоўцаў, нарошчванне ведаў з улікам асваення новых гістарычных і сацыялагічных макра- і мікратэорый, запатрабаванняў часу. У апошняе дзесяцігоддзе ў айчыннай гістарыяграфіі адбываюцца спробы пошуку новых метадалагічных падыходаў, выкарыстання мадэрнізацыйнай парадыгмы для аналізу трансфармацыі беларускага грамадства. Этапы і асаблівасці разгортвання мадэрнізацыйных працэсаў у Беларусі, іх змест, уплыў на сацыяльныя змены, эвалюцыю сацыяльнай структуры насельніцтва ў другой палове XIX – пачатку XX ст. даследуе А. Каханоўскі[38]. Узяўшы за метадалагічную аснову даследавання мадэрнізацыйную парадыгму, С. Токць[39] ахарактарызаваў накірунак і характар сацыяльна-культурных працэсаў, якія адбываліся ў традыцыйным жыцці заходнебеларускай вёскі ў другой палове XIX – першай трэці XX ст. На мікраўзроўні, узяўшы за прыклад невялікі рэгіён на тэрыторыі сучаснага Лагойскага раёна, В. Насевіч[40] праананалізаваў сацыяльна-культурныя, гаспадарчыя, дэмаграфічныя змены ў традыцыйнай беларускай вёсцы з XIV па сярэдзіну XX ст.

На працягу XX – пачатку XXI ст. гісторыкамі акрэслены межы і накірунак сацыяльна-эканамічных, грамадска-палітычных, этнакультурных працэсаў Беларусі XIX – пачатку XX ст., уведзены ў навуковы ўжытак і ахарактарызаваны асноўныя віды масавых крыніц, акрэслены і выкарыстаны інфармацыйныя магчымасці статыстычных дадзеных. Аднак пры ўсім багацці і шматграннасці зробленага па-за межамі цікавасці даследчыкаў засталіся пытанні паўнавартаснай характарыстыкі многіх сацыяльна-саслоўных груп, эвалюцыі нацыянальна-канфесійнага накірунку ўрадавай палітыкі, разгортвання працэсаў этнакультурнай самаідэнтыфікацыі розных груп насельніцтва Беларусі і многае іншае. Не менш цікава разглядзець пытанні паўсядзённага жыцця розных сацыяльных пластоў жыхароў, функцыянавання культурных асяродкаў дваранскіх сядзіб і гарадскіх ускраін, эвалюцыі сацыяльнай мабільнасці насельніцтва Беларусі і інш. Такія задачы патрабуюць удасканалення даследчыцкага інструментарыю, выкарыстання метадаў сацыялогіі і эканомікі, апрацоўкі вялікіх комплексаў крыніц, найперш на мікраўзроўні. Акрамя таго, для беларускай гістарыяграфіі, у тым ліку сучаснай, характэрна ў значнай ступені апісальнасць у аналізе гісторыі саслоўяў, эвалюцыі расійскай саслоўнай палітыкі, вызначэнні спецыфічных рыс трансфармацыі саслоўных інстытутаў у Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.[41]

За апошнія 15 гадоў, у параўнанні з папярэднімі этапамі развіцця айчыннай гістарыяграфіі, гісторыя Беларусі стала прадметам дастаткова актыўнага разгляду на старонках навучальных дапаможнікаў для сярэдняй школы, абітурыентаў, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў. У гэтым накірунку найбольшыя здабыткі зроблены супрацоўнікамі профільных кафедр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а таксама Беларускага дзяржаўнага педагагічнага, Гродзенскага і Магілёўскага ўніверсітэтаў, БДУІР, БДЭУ.

[1] Гл.: Дудкоў Д.А. Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў 2-й палове XIX і пачатку XX стагоддзя. Мн., 1932.
[2] Гл.: Кернажыцкі К.І. Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст. Мн., 1935.
[3] Гл.: Саладков И.И. Социально-экономическое положение Белоруссии до Великой Октябрьской социалистической революции (конец XIX – начало XX в.). Мн., 1957.
[4] Гл.: Фридман М.Б. Отмена крепостного права в Белоруссии. Мн., 1958.
[5] Гл.: Шабуня К.И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Мн., 1962.
[6] Гл.: Абезгауз З.Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1971.
[7] Гл.: Бич М.О. Рабочее движение в Белоруссии 1861–1904 гг. Мн., 1983; Ён жа. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии. 1883–1903. Мн., 1973.
[8] Гл.: Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии. 1860–1900 гг. Мн., 1978.
[9] Гл.: Кожушков А.И. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1963.
[10] Гл.: Липинский Л.П. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (II половина XIX в.). Мн., 1971.
[11] Гл.: Панютич В.П. Из истории формирования пролетариата Белоруссии (1861–1914 гг.). Мн., 1969; Ён жа. Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. Мн., 1990.

[12] Гл.: Ч е п к о  В . В . Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века. Мн., 1966; Ё н  ж а . Города Белоруссии в первой половине XIX века. Экономическое развитие. Мн., 1981.

[13] Гл.: С а м б у к  С . М . Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. Мн., 1980.

[14] Гл.: У л а щ и к  Н . Н . Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. Мн., 1965.

[15] Гл.: Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Т. 2: Беларусь у перыяд капіталізму (1861–1917 гг.). Мн., 1972.

[16] Гл.: История рабочего класса Белорусской ССР: В 4 т. Мн., 1984. Т. 1: Рабочий класс Белоруссии в период капитализма.

[17] Гл.: Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985.

[18] Гл.: Т е п л о в а  В . А . Время императора Николая I и цивилизационный поворот в судьбе Беларуси // Россия и Беларусь: от века XIX к веку XXI. Брест, 2004.

[19] Гл.: Ш ы б е к а  З . В . Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). Мн., 1997.

[20] Гл.: Ж ы т к о  А . П . Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861–1914 гг. Мн., 2003.

[21] Гл.: П о л е т а е в а  Н . И . Купечество Беларуси: 60-е гг. XIX – начало XX в. Мн., 2004.

[22] Гл.: С о с н а  У . А . Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мн., 2000.

[23] Гл.: Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Мн., 2002. Т. 2: Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г.

[24] Гл.: Я н о ў с к а я  В . В . Хрысціянская царква ў Беларусі ў 1863–1914 гг. Мн., 2002.

[25] Гл.: Г а р б а ц к і  А . А . Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX ст. Брэст, 1999.

[26] Гл.: К а р е в  Д . В . Белорусская историография в эпоху капитализма (1861–1917 гг.) // Наш радавод. Гродно, 1991. Кн. 3. Ч. 1. С. 49–115.

[27] Гл.: Б р и г а д и н  П . И . ,  Л у к а ш е в и ч  А . М . Минские губернаторы: история власти. Мн., 2009.

[28] Гл.: Л ю т ы  А . М . Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў другой палове XVIII – першай палове XIX ст. Мн., 2004.

[29] Гл.: С м а л я н ч у к  А . Ф . Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй: польскі рух на беларускіх землях. 1861–1917 гг. СПб., 2004.

[30] Гл.: З а б а ў с к і  М . М . Расійская Дзяржаўная дума ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі (1906–1917 гг.). Мн., 1999.

[31] Гл.: С н а п к о ў с к а я  С . В . Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX стст. Мн., 1998.

[32] Гл.: К и ш т ы м о в  А . Л . Дискуссии о роли российского и польского капиталов в развитии экономики Беларуси XIX – начала XX века // Промышленная политика в стратегии российских модернизаций XVIII–XXI вв.: Материалы Междунар. науч. конф., посвященной 350-летию Н.Д. Антуфьева-Демидова. Екатеринбург, 2006. С. 30–34.

[33] Гл.: С о к о л о в а  М . А . Общественные движения на территории Беларуси (XIX – начало XX в.): историография, методологические принципы исследования. Мн., 2011.

[34] Гл.: Ш и м у к о в и ч  С . Ф . Благотворительность в Беларуси в конце XIX – начале XX века. Мн., 2006.

[35] Гл.: Гісторыя Беларусі: У 6 т. Мн., 2005. Т. 4: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.).

[36] Гл.: Гістарыяграфія гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.: праблемы, здабыткі, перспектывы. Мн., 2006.

[37] Гл.: На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы. Мн., 2011.

[38] Гл.: К а х а н о ў с к і  А . Г . Этапы і шляхі мадэрнізацыі Беларусі ў XIX – пачатку XX ст. // Весн. БДУ. Сер. 3. 2003. № 3. С. 3–6.

[39] Гл.: Т о к ц ь  С . Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: Другая палова XIX – першая траціна XX ст. Мн., 2007.

[40] Гл.: Н о с е в и ч  В . Л . Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе. Мн., 2004.

[41] Гл.: Гістарыяграфія гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.: праблемы, здабыткі, перспектывы… С. 74.

Паступіў у рэдакцыю 28.07.11.

***Аляксандр Генадзьевіч Каханоўскі*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу. Даследуе пытанні сацыяльнай і этнакультурнай гісторыі Беларусі XIX – пачатку XX ст. Аўтар каля 200 навуковых і вучэбна-метадычных публікацый, у тым ліку ў суаўтарстве звыш 30 навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі.

***Сяргей Мікалаевіч Ходзін*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дэкан гістарычнага факультэта, загадчык кафедры крыніцазнаўства. Даследуе пытанні крыніцазнаўства гісторыі Беларусі XX ст. Аўтар звыш 100 навуковых і вучэбна-метадычных публікацый, у тым ліку навучальных дапаможнікаў па крыніцазнаўству гісторыі Беларусі для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў.